

# БЕЛАРУС

№446 • Жнівень 1997 г.
Год выд. 46

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

## ДАКУМЭНТЫ З V-ГА ЗЬЕЗДУ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

*21 чэрвеня сёлета ў Менску адбыўся V чародны зьезд БНФ. Зьезд апрацаваў шэраг адозваў, праграмных пастулятаў ды заклікаў. Ніжэй друкуюцца некаторыя дакумэнты, якія былі зацьверджаныя зьездам.*

### ЗАЯВЫ V ЗЬЕЗДУ БНФ «АДРАДЖНЬНЕ»

### «АБ ПРАЎНАЙ НІКЧЭМНАСЬЦІ ДАМОВАЎ РЭЖЫМУ ЛУКАШЭНКІ З РАСЕЯЙ»

Прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі падпісаў з Крамлём шэраг дамоваў, скіраваных на паступовае зьнішчэньне незалежнасьці Беларусі. Але, як вядома, дыктатарскі рэжым у Менску учыніў дзяржаўны пераварот у форме незаконнага рэфэрэндуму, гвалтоўнага скасаваньня інстытуту парлямэнтарызму і незалежнага суду, патаптаньня правоў і свабодаў чалавека. Вынікі дзяржаўнага перавароту, лукашэнкаўская дыктатарская канстытуцыя і псэўдапарлямэнт не прызнаныя нідзе ў сьвеце, акрамя Расеі. Зрэшты, рэжым Лукашэнкі страціў легітымнасьць раней — калі зьявіліся прэзыдэнцкія ўказы, прызнаныя Канстытуцыйным судом супярэчнымі Канстытуцыі.

Таму любыя захады Лукашэнкі і прызначанага ім «нацыянальнага сходу», скіраваныя супраць незалежнасьці Беларусі, у тым ліку міжнародныя дамовы, усе акты супраць правоў і свабодаў чалавека ня маюць ніякай юрыдычнай сілы і будуць адмененыя адразу пасьля падзеньня рэжыму. Будзе праведзена расьсьледваньне дзейнасьці службовых асобаў, якія рэалізоўвалі палажэньні незаконных актаў.

### «СПЫНІЦЬ ПЕРАСЬЛЕД ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

Рэжым Лукашэнкі мэтадычна вынішчае падставы грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі, расколвае грамадзтва ды ператварае яго ў маўклівы, пакорлівы, пазбаўлены пачуцьця Радзімы і свабоды натоўп.

Але сотні, узьніклых у Беларусі за апошнія гады неўрадавых грамадзкіх арганізацыяў — сьведчаньне адраджэньня беларускага народу да грамадзкага чыну, зарука жыцьцяздольнасьці беларускай грамадзянскай супольнасьці. Так, менавіта дзякуючы грамадзкім арганізацыям, а не афіцыйным уладам, сьвет даведаўся пра масштабы наступстваў Чарнобыля для Беларусі. Менавіта грамадзкія арганізацыі, а не дзяржаўныя структуры бароняць зараз беларускую культуру, мову, гістарычную памяць. Грамадзкія арганізацыі, а не дзяржаўныя «праваахоўныя» органы, адстойваюць правы і свабоды чалавека ў Беларусі.

Для задушэньня грамадзянскіх ініцыятываў рэжым выкарыстоўвае розныя мэтады. Ствараюцца фіктыўныя, падначаленыя адміністрацыі прэзыдэнта псэўдаграмадзкія арганізацыі накшталт БПСТ — лукашысцкага камсамолу, утворанага на базе адыёзнага «Прямого действия». Функцыі грамадзкіх арганізацыяў намагаюцца перанязць прэзыдэнцкія структуры накшталт нованўторанага «дэпартамэнта па справах гуманітарнай дапамогі» адміністрацыі Лукашэнкі.

Адбываюцца напасрэдныя рэпрэсіі супроць грамадзкіх арганізацыяў ды іхных актывістаў. Улады, няздольныя дапамагчы пацярпелым ад Чарнобыля, пачалі цкаваньне найбуйнейшей і найбольш аўтарытэтнай у Беларусі, вядомай у сьвеце дабрачыннай арганізацыі — Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля». які зарганізаваў аздараўленьне больш як 100 тысячаў беларускіх дзяцей. Кіраўнік Фонду, навуковец і дэпутат Генадзь Грушавы, стаў аб'ектам сфабрыкаванай уладамі крымінальнай справы супраць Фонду. Рэжым распраўляецца зь іншымі грамадзкімі арганізацыямі, як гэта стала зь Беларускім Фондам Сораса, фондам "Бацькаўшчына" ў Горадні і г.д.

Беларускі Народны Фронт патрабуе спыніць перасьлед грамадзкіх арганізацыяў ды іхных актывістаў. Мы заклікаем міжнародную супольнасьць праявіць салідарнасьць ь неўрадавымі арганізацыямі Беларусі, якія вядуць мужную барацьбу за дэмакратыю, свабоду і правы асобы.

21 чэрвеня 1997 г.
г. Менск

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра дзякуе за прысланыя інфармацыі і газэтныя выразкі: К. Акулу, І. Сурвілла, д-ру Ю. Кіпелю, др-у і В. Рамукам, Г. Шэйпаку, Б. Даніловічу, Ю. Найдзюк, М. Швэдзюку, К. Вераб'ю, А. Маркевічу, З. Пазьняку, С. Трыгубовічу, А. Міцкевічу, Б. Рагулю, М. Грэбеню, М. Латушкіну, В. Махнач, Л. Брылеўскай, Н. Жызьнеўскаму.

## АДКАЗНАЕ ДАРУЧЭНЬНЕ

Нядаўна на Захадзе вышла з друку кніга Нормана Мэйлера «Гісторыя Освальда. Меркаваны забойца амэрыканскага прэзыдэнта ў сакрэтных дакумантах КДБ Беларусі». Аляксандар Лукашук зрабіў па матывах гэтай кнігі цікавую перадачу на беларускім радыё «Свабода», дзе паказаў, між іншым, метады «працы», сачэньня, назіраньня, выкарыстаньня агентаў і г.д. у савецкім КДБ.

Гісторыя таямнічага забойства амэрыканскага прэзыдэнта Джона Кэнэды да сёньняшняга дня ўзбуджае сьвет, адкрывае ўсё новыя, часам старанна схаваныя, факты.

У пачатку студзеня 1960 году (за паўтары гады да забойства Кэнэды) Лі Харві Освальд, будучы забойца прэзыдэнта, прыехаў у Менск і пажадаў застацца ў СССР. За ім адразу было ўстаноўлена амаль кругласутачнае назіраньне з боку КДБ. Прасочваўся і дакумантаваўся ў справаздачах агентуры кожны крок Освальда, распісаны агентамі па хвілінах. КДБ падазраваў, што Освальд агент ЦРУ-ФБР, і поўнасьцю ўзяў апеку над ім, акружыўшы сваімі людзьмі. Кадэбісты ўладкавалі Освальда на працу на Менскі радыёзавод № 6, дзе ён працаваў наладчыкам апаратуры першага разраду, арганізавалі праз агентуру кантроль парткома за людзьмі, устанавілі сакрэтную апаратуру. КДБ «знайшоў« Освальду кватэру і субяседнікаў, не спускаў вока з аб'екту сачэньня.

«Адна з задач, якая паўстала пасьля прыезду Освальда ў Менск, — працягвае А. Лукашук, — ці сапраўды ён, былы амэрыканскі марскі пехацінец, ня ведае расейскай мовы, ці толькі гуляе ў няведаньне. Гэта можна было праверыць па тым, як бы ў яго ішоў працэс вывучэньня мовы, паступова ці скачкамі».

Неўзабаве зьявіўся і настаўнік рускай мовы для Освальда. Ім аказаўся не мовазнаўца, не лінгвіст і нават не настаўнік, а чалавец сьцісла тэхнічнай негуманітарнай спэцыяльнасьці, які працаваў у тэхнічным бюро — Станіслаў Шушкевіч, будучы Старшыня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, вядомы потым дэмакрат, які на 95 адсоткаў згаджаўся з БНФ.

Мала хто ведаў і ведае пра здольнасьці С. Шушкевіча да мовазнаўства, таму журналіст задаў яму пытаньне:

— Скажыце, як і чаму вы атрымалі даручэньне вучыць Освальда расейскай мове?

— Вы ведаеце, — адказвае С. Шушкевіч, — я да гэтага часу гэтага ня ведаю, але я працаваў у СКТБ. Мяне паклікаў да сябе Лібезін, сакратар парткама экспэрыментальнага цэху, і сказаў: «Так мы тут абмеркавалі, ёсьць такі чалавек, які ня ведае рускай мовы. І вы, калі ласка, у яго не пытайцеся, хто ён, адкуль і што. Ён прыехаў да нас у Савецкі Саюз і трэба, каб вы яго навучылі рускай мове.»

Вось так Лі Харві Освальд вывучаў рускую мову.

**(Па матэрыялах радыё «Свабода», 3-4 ліпеня 1997 г.)**

### АБ ПРАПАГАНДЫСЦКІХ ІНІЦЫЯТЫВАХ АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗЫДЭНТА ЛУКАШЭНКІ

Партыя БНФ атрымала ліст з адміністрацыі прэзыдэнта (№ 28/73 ад 30.07.97), у якім за подпісам памочніка прэзыдэнта С. Посахава інфармуецца пра намер стварыць пры прэзыдэнце Рэспублікі Беларусь грамадзкі кансультатыўны савет з прадстаўнікоў партыяў, грамадзкіх арганізацыяў і прафсаюзаў. Партыі БНФ прапануюць прыслаць прадстаўніка на сустрэчу па арганізацыі згаданага прэзыдэнцкага савету.

У сувязі з гэтым крокам адміністрацыі мушу заявіць, што пазыцыя партыі БНФ цалкам адпавядае рашэньям 5-га Зьезду Беларускага Народнага Фронту і яго выніковым дакумантам, дзе сказана, што «сапраўднае вяртаньне Беларусі ў праўнае поле і сям'ю цывілізаваных эўрапеўскіх народаў магчымае толькі пасьля адстаўкі Лукашэнкі. «Партыя БНФ, гэтак жа як і ўся міжнародная супольнасьць, ацэньвае цяперашні рэжым у Беларусі як нелегітымны і пабудаваны на антыпраўнай падставе ў выніку антыканстытуцыйнага перавароту і ўзурпацыі ўлады Лукашэнкам. Таму Партыя БНФ ня можа супрацоўнічаць з гэтым рэжымам і ўдзельнічаць у якіх бы там ні было «прэзыдэнцкіх саветах» і разглядае прапанову адміністрацыі як дзіўную.

**Зянон Пазьняк**
**старшыня Партыі БНФ**

## Зь дзейнасьці Рады БНР

4-5-га ліпеня 1997 году ў Вільні адбылася Сэсія Эўрапэйскага Сэктару Рады БНР.

На сэсіі былі абраныя і зацьверджаныя новыя сябры Рады. апрабаваныя палітычныя дзеяньні Рады ды зрыхтаваныя дакумэнты да надыходзячае сэсіі Рады БНР у ЗША.

• • •

Чародная 22 Сэсія Рады БНР адбудзецца ў ЗША 30-31 жніўня сёлета.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*З беларускага жыцьця ў Канадзе*

## 9-ае ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КОМПЛЕКСУ Ў КАНАДЗЕ

Для адзначэньня тысячагодзьдзя хрысьціянства ў Беларусі, у прошчы канадыйскіх пакутнікаў, што завецца "Martyrs' Shrine" у Мідляндзе, быў узьнесены й асьвячаны ў 1988 годзе — Беларусі памятны Крыж. З таго часу кажны год адбываюцца да яго паломніцтвы.

Летась, 1-га чырвэня, у часе 8-га паломнітцва, быў асьвячаны, узьнесены ля Беларускага Крыжа, манумэнт з мэмарыяльнай дошкай «Памяці ахвяр камуністычнага тэрору ў Беларусі».

Сёлета, 28 чэрвеня 1997, адбылося 9-ае паломніцтва да Беларускага сьвятога мейсца ў Канадзе. Сьвятарам- яго былі госьці із Ст. Катэрынс, Канада: ерэманах Бэнэдыкт, які праз два гады быў у Полацку, і дасканала валодае беларускай мовай, ды айцец Багдан. Зь імі прыбылі ў паломніцтва й манахі Манастыра Сьв. Антона й Тэадозія ў Ст. Катэрынс, браты Ігар і Андрей.

У 10:30 зраніцы, пачалася Сьв. літургія, прысьвечана памяці памерлага летась дырэктара прошчы айца Джэймса Фаррэла і памерлых паломнікаў да Беларускага Крыжа, а гэта сьв. пам.: Янкі Сурвіллы, Морыс Мэрдак, Міхася Махнача, Леакадыі Бычко, Тома Кэлі, Еўдакіі Жызьнеўскай, Марыі Каладзейскай, Баляслава Лішчонка, Галены Гарадэцкае й Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Адпраўляў Багаслужбу ў беларускай мове ерэманах Бэнэдыкт, у саслужэньні айца Багдана, які служыў па-ангельску. Да літургіі пяяў па-беларуску маладзенькі манах Ігар. Апостала — ліста Паўлы да хрысьціян Тэсалёнікі пра другі прыход Хрыста й ўваскрашэньне памерлых — чытала ў беларускай мове Раіса Жук-Грышкевіч, ў ангельскай — Маргарэт Кэлі.

У казаньні па-беларуску а. Бэнэдыкт расказваў, як паміраючы сьвятар пацяшаў сяброў, што сумавалі, расстаючыся зь ім на векі. Ён сказаў ім: **«Ня сумуйце, кожны раз, як будзеце мяне ўспамінаць — я буду з вамі».**

Працэсія з крыжам і беларускім бел-чырвона-белым сьцягам падымалася на ўзгорак да Беларускага Крыжа й манумэнту Памяці Ахвяр камуністычнага тэрору ў Беларусі.

Перад Беларускім памятным камплексам айцец Бэнэдыкт блаславіў прысутных, дзякаваў Богу, што дазволіў, каб адбылося гэтае паломніцтва. Дзякаваў за магчымасьць быць удзельнікамі гэтых урачыстасьцяў.

Вуснамі Раісы Жук-Грышкевіч узьдымалася да Усемагутнага малітва:

— За Богам сьцеражоную краіну нашу Беларусь і ўвесь беларускі народ, за стойкасьць у веры, мужнасьць у выпрабаваньнях, і вернасьць сваяму народу.

Як прысяга й зарок прагучаў пад кіраўніцтвам Міколы Ганька, жалобны гімн — Сьпі пад курганам герояў.

Каардынатар паломніцтва, Раіса Жук-Грышкевіч, дзякавала ўсім, што спрычыніліся да зьдзейсьненьня гэтай урачыстай падзеі-паломніцтва ды перадавала прывітаньні й шкадаваньні, што ня можа быўць з намі, ад нашае слаўнае паэткі Натальлі Арсеньневай, словы гімну якое «Магутны Божа» пяе цяпер ня толькі беларускае замежжа, але й уся Беларусь. Паэтка была няўтомнай паломніцай да Беларускага Крыжа, а цяпер на 94-м годзе жыцьця моцна хворая, страціла ўзрок.

Гімнам «Магутны Божа» закончылася урачыстая частка паломніцтва. Пасьля агульнага здымку, у цені дрэў, што баранілі над ад сьпёкі, паломнікі разлажыліся за агульным сталом на полудзень.

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**

## БЕЛАРУСКАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў ПАРЫЖЫ

27-га траўня ў часе канфэрэнцыі НАТА, якая адбывалася ў Парыжы у Елізэйскім Палацы, мясцовыя беларусы наладзілі дэманстрацыю пратэсту супроць палітыкі Масквы у дачыненьні да Беларусі. На пляцы Трыкадэра раздаваліся улёткі, у якіх гаварылася, што «Беларусь, пасьля распаду СССР, выбрала незалежнасьць у салідарнасьці з эўрапэйскімі народамі. Рацейскі імпэрыялізм, супольна з лукашэнкам, зрабілі заговор супроць вольнай Беларусі і імкнуцца адарваць яе ад Эўропы.

Падтрымайце Вольную і Незалежную Беларусь!»

Дэманстрантаў падтрымалі добрасуседнія сябры-украінцы.

Дарэчы тут зазначыць, што сп. Міхась Наумовіч перад канфэрэнцыяй НАТА напісаў ліст Прэзыдэнту Францыі у справе сучаснага стану ў Беларусі і расейскай палітыкі у дачыненьні да Беларусі. На ліст сп. Наумовіч атрымаў падзку за паінфармаваньне Прэзыдэнта у гэтай справе.

## ШМАТКУЛЬТУРНЫ ФЭСТЫВАЛЬ У БЭРЫ, КАНАДА




У 90-х гадох горад Бэры, у Канадзе, штогоду наладжваў шматкультурныя фэстывалі. Апошнія два гады дзеля нястачы фондаў, гэткіх імпрэзаў у нашым гарадзе ня было.

Сёлета, 12-га травеня 1997, з ініцыятывы, стараньнем й коштам мясцовае арганізацыі "Rotary Club, International" шматкультурны фэстываль у нашым горадзе адбыўся. У ім прадстаўлены былі 25 краінаў сьвету. Із заходніх славянскіх былі: Чэшская Рэспубліка і Польшча; з усходніх — Беларусь і Украіна; з балтаў — Эстонія.

Прыехала я наладзіць беларускі аддзел загадзя. Сталы былі ўжо ўсім прызначаныя. З аднаго боку Беларусі была Карея, з другога — Эстонія. На фронце залі стаяла маса сьцягоў. Падыходзіць да мяне адна спадарыня й пытае, які наш сьцяг. У нас сьцягі ёсьць — кажа яна — скажыце толькі які ваш. Кажу, наш сьцяг бел-чырвона-белы, і шукаю вачыма між масы сьцягоў свайго. Я бачу бел-чырвона-белы !!! стаіць прыгожы, вялікі. Панесла яго да свайго стала. На сьцяне ля яго вывесіла, зробленую на 1000-годзе дзяржаўнасьці Беларусі мастачкай Іванкай Сурвілла, Пагоню й наладзіла нашае гняздо. Аддзел «Беларусь« павінен зьвяртаць на сябе ўвагу, прыцягаць наведвальніка й зацікавіць яго, што-ж гэта за краіна, каб ён затрымаўся й стаў распытваць пра Беларусь. Гэта мэта ўдзелу ў такіх фэстывалях. Ды другая — паказаць прысутнасьць беларусаў ў Канадзе. І мэта гэтая, як і папярэднімі разамі, так і цяпер, можна сказаць, поўнасьцю была асягнута. Ля нашага стала было заўсёды поўна людзей і многа пытаньняў. Прыдалася бы толькі большая колькасьць картаў Беларусі. Карты, што прывезла з сабой, хутка разыйшліся, бо людзі цікавіліся. Людзей было шмат. За чатыры гадзіны гэтага «кірмашу» прайшло 1,000 асобаў.

Людзі, некаторыя ведаюць, некаторыя даведваюцца, што Беларусь — гэта новая незалежная дзяржава. Адна асоба зь іншае правінцыі кажа, што яна ведае пра Беларусь, бо ў іх летам бываюць дзеці зь Беларусі — ахвяры Чарнобыля. У нас у Атаве ёсьць «Канадыйскі Фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі», які арганізуе летнія канікулы для дзяцей Чарнобыля зь Беларусі — старшыня Фонду Івонка Сурвілла. Вось і гэты фонд робіць беларускаю прапаганду, гаворыць і аб прысутнасьці беларусаў у Канадзе.

Што-ж было на нашай выстаўцы? На арыгінальных багатых колерам і ўзорам ваўняных Палескіх — з Пружаншчыны — дыванох цэнтральнае мейсца займаў дрэварытнны абраз Еўфрасіньні Полацкай, выкананьня Івонкі Сурвіллы. Абраз інсьпіраваны Полацкімі фрэскамі. Побач яго апраўленая ў рамку колерная вы-ява Крыжа Еўфрасіньні Полацкай, паштоўка Беларускага-Еўфрасінеўскага крыжа, пласкаразьба ў мэталі князёўны Прадславы — Еўфрасіньні Полацкай, Слуцкі пояс — падарак Беларускаму памятнаму Крыжу ад Спадарыні Ганны Сурмач, раскрытая кніга «Плястка Беларусі, XII – XVIII стагодзьдзяй» з выявамі багатых скульптураў, а побач бачына календара з 1993 г. Магнаты Беларусі з прыгожым партрэтам Элізабэты Сафіі Радзівіл; паштоўкі Беларускага памятнага Крыжа, бел-чырвона-белыя сьцяжкі, інфармацыйная літаратура й карты Беларусі, вялікі на белым тле чырвонымі літарамі напс: BELARUS, і іншае. Тут і народнае мастацтва: лялькі зь ільняных валокнаў, інкрустацыі саломкі на дрэве: выява беларускае дзяўчыны, вялікае блюда, і розныя скрынкі. Тут і вышыўкі сёстраў Будчанак, дачок Эдварда Будзькі з Будслава, ручнікі зь Беларусі — адзін зь іх ад Ганны Сурмач; раскошны кошык з саломкі.

Мы, беларусы ў Канадзе, стараемся ўсякімі спосабамі, дзе й як магчыма, быць прысутнымі, быць «па мапе Канады»; быць амбасадарамі й апосталамі Беларусі й беларушчыны.

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**

## ГАДАВЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

51-ы агульны гадавы зьезд сяброў і дэпутатаў Згуртаваньня Беларусаў у В. Брытаніі адбыўся у суботу 7-га чэрвеня сёлета у залі пры Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны у Лёндане.

Зьезд адкрыў старшыня управы ЗБВБ сп. В. Еўдакімаў. Старшыня запрасіў а. Надсона малітвай зьвярнуцца да Бога за пасьпяховы прабег Зьезду. Пасьля малітвы а. Надсон прыпомніў гістарычны факт першага зьезду беларусаў у Англіі, на якім было закладзенае ЗБВБ, што зьяднала беларусаў Англіі і яднае іх да гэтае пары.

Была выбраная мандатная камісія у складзе М. Баяроўскага, С. Будкевіча і Я. Шастова, якая падцьвердзіла кворум і упаўнаважыла зьезд праводзіць сваю работу.

У прызыдіюм зьезду аднагалосна былі выбраныя сп. М. Швэдзюк (старшыня), і сакратары Др. Турло і сп-ня І. Дабяніцкая.

Пратакол папярэдняга гадавога зьезду зачытаў др. Турло. Справаздачу ўступаючай Галоўнай управы здаў старшыня В. Еўдакімаў. Ён запрасіў хвілінай цішыні ушанаваць памяць сяброў, што адыйшлі ад нас у лепшы сьвет. Ён гэтаксама прывітаў новых маладых сяброў, якія папоўнілі рады арганізацыі.

Інфармацыю аб дзейнасьці Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ дала старшыня сэкцыі сп-ня Л. Міхалюк, а пра фінансы — бугальтар др. Турло.

Фінансавую справаздачу дамоў ЗБВВ у Лёндане, Брадфорд і Манчэстэр здалі іх адміністратары.

# ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

*Імя а. Язэпа Германовіча добра вядома, як і літаратурныя працы Вінцука Адважнага — «Байкі», «Князь і лапаць», «Кітай, Сібір, Масква», надзвычай каштоўныя ўспаміны, зьмешчаныя ў часапісе «Божым Шляхам». А вось зь лістоў а. Германовча да Юркі Віцьбіча мы даведваемся пра існаваньне пьесы «Беларусь, у крыві і ў вагні», яе гісторыю, а таксама асобные факты з жыцьця яе аўтара. Вось колькі урыўкаў з перапіскі.*

Мае «Ўспаміны» маюць неяк, пайсьці ў пераклад на ангельскую. Сп-ня Бачалёр, ангелька, згадзілася тлумачыць з польскага перакладу, які быў аўтарызаваны і даволі добра прыняты ў польскім грамадзтве. Пры гэтым пасылаю копію маёй драмы-трагедыі «Беларусь у крыві і ў вагні» і прашу ласкава, але моцна яе скрытыкаваць, а нават папрравіць мову. Мушу прызнацца, мяне добрыя людзі усьцяж папраўляюць, бо я сам моцна-нямоцны ў роднай мове. Нарадзіўся й гадаваўся ў мястэчку Гальшаны, у якім мова беларуская, на дзіва, ня згодная з наваколлем: у нас усё кіруецца на 'і', напрыклад, *паліцеў, пасідзеў, біроза, сікера*. Цікава, што такую мову я спаткаў у Прыдруйску. Магчыма, што жыхары Гальшан і Прыдруйску зьнекуль былі Сапегамі прывезены. А Гальшанскі замак сьведчыць аб Сапегах, а Гарадзішча ў двух вёрстах ад мястэчка сьведчыць аб князёх Гольшах. А вучыўся я ў школах расейскіх і ў духоўнай спольшчанай сэмінарыі ў Вільні. Працаваў сьвятаром спачатку ў мазурох у Беластоку і толькі ад 1919 г. у Ваўкавыскім, пасьля ў Слонімскім, далей у Дзісьненскім і нарэшце ў Браслаўскім павеце. Далей 14 гадоў у Кітаі (там у мове расейскай у школе-гімназіі), пасьля ў Сібіры — 6 з паловай год, і яшчэ ў Польшчы — 4 з паловай, далей Рым, Амэрыка, Лёндан. Як бачыце, паўстала такая мікстура розных моваў і ўплываў, што маю абавязак прасіць людзей практычных папраўляць маю граматыку. І пакорна прашу вашае ласкавасьці ня цэрамоніцца, а добра парадзіць і памагчы аўтару ў ягоных слабасьцях, зусім зразумелых. А пісаць па-беларуску я пачаў, маючы блізка 36 гадоў пад націскам Кс. Адама Станкевіча і сп. Гарэцкага, які мяне проста прымушаў да гэтага, кажучы: «Табе, айцец, грэх будзе, калі ня будзеш пісаць»! З таго я пачаў пісаць у 1919 і ўжо далей «грашыў», пішучы розныя разнаякасьці, пакуль ня перарваў мне Харбін.

«Драму пасылаю пакуль у брульёне: калі яна пройдзе этап крытыкі і адляжыць крыху спакойна, тады вазьмуся яе перарабіць на чыстую да выданьня ў кніжцы — зразумела, калі крытыка яе не збракуе цалкам! Я яшчэ прашу зьвярнуць увагу на зьмест гістарычны і лёкальны ў Росіцы, ці няма там аніякіх памылак? Нават можа штосьці патрабуе папраўкі у адносінах немцаў да беларусаў і ў ваенных нямецкіх формах, чынах, назовах. А мястэчка Росіца ёсьць тая самая, а ня іншая Расіца. І я рады, што Вы памаглі мне ўстанавіць тэрмін зьнішчэньня той Росіцы, бо якраз законьніцы гаварылі аб месяцы лютым і аб днях аўторак, серада, чацьвер гэта супадзе з канцом лютага і з датамі, якія я ўжо прызнаў фактычнымі. (22.09.1967).

Адносна маіх «паветалізмаў Гальшанскіх» хачу заўважыць, што яны ня дужа сходзяцца з такімі-ж Ф. Багушэвіча, бо мае слаўныя Гальшаны, на дзіва, маюць зусім адменную мову ад ашмянскіх — да таго, што нават аб Ашмяне (гэта нашае паветавае-раённае места) у Гальшанах гавораць: «Там жывуць мужыкі, бо кажуць 'ня трэба'»! Бо тое ў Гальшанах пануе 'ні', як дражняць наўкол нашых: «Альшанец узяў сікеру і паліцеў па бірэзьнічку». Я-ж, праўда, ужо адвык ад таго ўпартага 'ні', але засталося ў мяне маса ўсякае мешаніны.

І вельмі крыўдна, калі кажуць аб слаўных гістарычна Гальшанах, што яно *сяло*. Я сам яшчэ помню, як у гальшанскім замку на Замкавай вуліцы (афіцыяльна называлася Вішнеўская, але ніхто ў нас яе так не называў) на загад памешчыка генерала Горбанёва зьбівалі чатыры вежы на рагох парку. А ўласьнікамі замку былі князі Гольшы, пасьля Сапегі, наступна Корсакі, пасьля паўстаньня 1863 г. генерал Горбанёв і нарэшце новая «хвігура» расейская Ягмін, хоць фамілія ягоная летувіская. У Гальшанскім касьцёле быў маўзолеўм-помнік Паўла Сапегі, фундатара касьцёла — чатыры ляжачыя фігуры: князь і тры ягоныя жонкі (пэўна-ж, паступова іх меў) — вялікая, сярэдняя і найменшая. Цудоўная мастацкая разьба — у разьмеры больш нармальнага росту чалавека, у шэрым мармуру. Перахоўвала войны і рэвалюцыі, але што зь ёю цяпер, ня ведаю, бо касьцёл абернены на склад. (8.11.1967).

Дзякую Вам за ліст і за Вашую, як кажыце, «гутарку» аб маёй ня зусім здатнай, а таму і сапраўднай асабістай трагедыі. Найперш важна тое, што Вы дакладна акрэсьлілі месца тае дзеі, а таксама апісалі нямецкіх і савецкіх дзеячаў.

Тут хачу адразу зазначыць, што падзеі ў маёй драме ня выдуманыя, але ў аснове ўзятыя з пратаколу, які прывёз з Польшчы адзін з нашых айцоў (Ф. Журня). Ён дакладна адпытаў адну сястру-законьніцу, якая сама перажывала ўсю трагэдыю і сьпісаў зь яе слоаў, і яна пасьля ўсё падпісала: там паказаны дні й гадзіны і іншыя факты. Між іншым, яна паказала, што ўласна афіцэры былі немцы, а пры іх перакладчык быў латыш. Яе справаздача заслугоўвае на поўны давер, бо а. Кашыра, які быў зьнішчаны ў канцы, які адвёз сясцёр у Друю, дасказаў ім, што дзеілася ў мястэчку падчас забойства людзей, бо ён сам належыў да групы возчыкаў, што перавозілі народ з касьцёлу да назначаных пунктаў. І нарэшце па пару тыдняў гэтыя-ж законьніцы адведалі пажарышча і там пазналі руку а. Кашыры з ражанцам, а таксама і другія знакі злачынства тае экспэдыцыі. Значыць, усе падзеі, уціск народу, замкнёнага ў касьцёле — гэта ўсё сапраўднае: народ там маліўся палкаў, спавядаўся ды чакаў пэўнае сваё згубы.

Айца Ляшэвіча я знаў асабіста ў Харбіне: ён часткова працаваў у нашай школе і быў маім прыяцелем; дык ён у мяне апісаны зусім натуральна і аўтэнтычна. А Кашыра быў маім вучнем у Друйскай гімназіі і пасьля яшчэ я спатыкаўся зь ім у Другі ў гадох 1936-38, калі меў перапынак між першым ды другім сваім знаходжаньнем у Манджурыі. Тады Кашыра быў маладым сьвятаром, і я таксама яго апісаў дакладна. Законьніцы я даў сапраўды зашмат для трагедыі (10); яны працавалі ў Росіцы і другіх парахвіях, але пры аказіі яны ўсе былі сагнаныя ў самую Росіцу і там перажылі катастрофу. Не захацелі пакінуць пляцу сваёй духоўнай і самарытанскай місіі, хоць адклікала іхняя Генеральная матка і выпраўлялі немцы ў Друю. Вядома, дэталі ў мяне выдуманыя, але надта асьцярожна, каб ня выйсьці задалёка ад ведамых фактаў. Думаю, што трэба будзе ва ўступе абгаварыць і абаснаваць гісторыю тых дзён.

П'еса зусім ня мае прэтэнзіі да тэатру, а больш мае надзею трапіць у рукі чытачоў, каб маглі даведацца аб такім выдатным фрагмэнце, які ілюструе агульны стан беларускага народу падчас II сусьветнай вайны. (1967).

## ЗАЛАТЫЯ ЎГОДКІ НАДЗІ І АЛЯКСАНДРА НІПЕЙНЫХ



7-га ліпеня 1947 г., 50 гадоў таму, у невялічкім баварскім гарадку Остэргофэне, у Беларускім лягеры ДП, пажаніліся Надзя і Аляксандар Ніпейны.

Незадоўга затым яны эміґравалі ў Амэрыку. Шмат працавалі, уладкавалі сабе жыцьцё, узгадавалі добрых дзяцей і ўнукаў.

А сёлета, 26-га ліпеня, у Царкве Жыровіцкай Божай Маці у Гайлянд Парк, Нью-Джэрсі адбыўся урачысты шлюб з нагоды іхных залатых угодкаў, які выканаў а. Васіль Андрэюк.

Удзячныя дзеці «маладажонаў» наладзілі ім раскошнае прыняцьцё у залі Пайн Манар. Вельмі прыемна граў ансамбль сям'і Казакоў. Валя Пархоменка-Казак, Оля Казак і Алесь Казак цешылі гасьцей цудоўнымі беларускімі мэлёдыямі і сьпевамі, уключна з вясельнымі.

Вясельле, бо гэта было сапраўднае вясельле, было надзвычайна ўдалае й весёлае — нездарма-ж **Залатое**.

Шчасьці Божа й надалей.

**Сябры**

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

У нядзелю 13-га ліпеня сёлета парафіяне Беларускае Аўтакефальнае Царквы у Адэляйдзе сьвяткавалі прыстольнае сьвята Сьвятых Пятра й Паўлы.

А 10-ай гадзіне рана пачалася Божая служба. Царква напоўнілася. Літургію адслужыў а. пратаярэй Міхась Бурнос. Па літургіі адбылася малебень ды Крэсны ход.

Настрой быў вельмі вясёлы. Прыйшлі тыя, якія мала калі прыходзяць, а гэтаксама й каталікі беларусы. Хор сьпяваў вельмі добра пад кіраўніцтвам сп. У. Калесьніковіч.

У прыцаркоўнай залі адбыўся пацастунак. Сталы былі прыбраныя кветкамі. Ежа, прырыхтаваная жанчынамі, была разнастайная і вельмі смачная.

Парафіяльны старшыня сп. Уладзімер Акавіты прывітаў усіх з прыстольным сьвятам сьв. Апосталаў Пятра й Паўлы. Прысутныя ўшанавалі хвілінаю цішыні усіх тых, што будавалі царкву і адыйшлі на вечны супачынак. Старшыня папрасіў а. пратаярэя Міхася Бурноса благаславіць ежу і ўсе адсьпявалі «Ойча Наш» па-беларуску.

Старшыня гэтаксама прывітаў гасьцей зь Беларусі, з Гомелю і пажадаў яму «Многія лета».

Сьвяткаваньне працягвалася да 4-ай гадзіны па палудню. Сьпявалі беларускія народныя песьні. Сп. Мікалай Кандрусік дапамагаў на акардыёне.

Усе разьехаліся дадому у вясёлым настроі да наступнага году.

**У. Акавіты**

## НА БЕЛАРУСАВЕДНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ Ў ЛЮБЛІНЕ

19-21 чэрвеня ў Люблінскім Каталіцкім Ўнівэрсытэце (Польшча) адбылася навуковая канфэрэнцыя «Літаратура дыяспары Расеі, Украіны, Беларусі». У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі навуковых установаў Беларусі, Польшчы ды ЗША. Ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (ЗША) браў удзел сп. Лявон Юрэвіч.

У беларускай сэкцыі былі заслуханыя наступныя даклады: Л. Юрэвіч (Нью-Ёрк) «Беларускі літаратурны рух на эміграцыі»; П. Васючэнка (Менск) «Культурная традыцыя ў варунках літаратурнай дыяспары»; Г. Кісьліцына (Менск) «Эсэістычная сьвядомасьць у творчасьці Янкі Юхнаўца»; С. Кавалёў (Менск) «Рэцэпцыя паэзіі Н. Артымовіч на Беларусі»; Н. Русецкая (Менск) «Паэзія Р. Крушыны ў кантэксьце беларускай літаратуры XX ст.»; Б. Капій (Люблін) "Topos ojczyzny utraconej w poezji bialoruskiej emigracji"; Б. Гура (Люблін) "Tworczosc prozatorska Miry Lukszy".

# СЬВ. ПАМ. ЯНКА СУРВІЛЛА



Нарадзіўся 20 чэрвеня, 1925 году ў сьведамай беларускай сям'і ў Бельвічах, што каля Жодзішкаў на Віленшчыне. Здольны хлопчык у чатыры гады ўжо ўмеў чытаць пабеларуску і ведаў напамяць «КУРГАН» Янкі Купалы. У школьным хоры быў салістам, а ў 14 год у віленскай газэце назвалі яго паэтам.

У 17 год Янка ўжо дырэктар і галоўны настаўнік пачатковай школы ў Данюшава, вёскі каля Жодзішкаў. Калі партызаны спалілі школу ды людзі прыбеглі папярэдзіць маладога настаўніка, што яго шукаюць, Янка выехаў да ваеннапалоннага дзядзькі Мароза ў Нямеччыну. У Бэрліне ў Беларускім Камітэце Самапомачы, які налічваў тады 13.000 сяброў-ваеннапалонных беларусаў, Янка сустрэўся з Міколам Абрамчыкам, які пераканаў яго застацца на працу ў Камітэце, у якім незабаўе ён стаў сакратаром.

Пасьля вайны ў беларускім ДП лягеры ў Ватэнштэце Янка ініцыятар, адзін з заснавальнікаў і першы старшыня Беларускага Камітэту Самапомачы, заснавальнік часапісу «Шляхам Жыцьця», ды ягоны рэдактар да канца 1947 году. У Ватэнштэце ён выдаў і сэрыю паштовак-відаў Беларусі.

У 1947 годзе Янка эміграваў у Францыю. Адбываў кантракт як работнік на мэталюргічнай фабрыцы ў Thionville, і быў актыўным у беларускім жыцьці. Ён быў сакратаром і рэфэрэнтам інфармацыі Сусьветнага Аб'еднаньня Беларускіх Эмігрантаў (САБЭ) ды сакратар Першага Сусьветнага Зьезду Беларускай Эміграцыі, як адбыўся ў лістападзе 1948 году ў Парыжы. На Зьезде гэтым ён пазнаёміўся с Івонкай Шыманец, зь якой у 1959 годзе ажаніўся. З 1948 па 1951 выдаваў БЮЛЕТЭНЬ САБЕ.

У 1951 годзе, дзякуючы стараньням а. Льва Гарошкі, Янка атрымаў стыпэндыю ад Каталіцкае арганізацыі дапамогі студэнтам з краінаў пад маскоўскім ярмом й выехаў у Гішпанію студыяваць на Мадрыдскім унівэрсытэце эканамічныя навукі. Выбраў ён гэты фах, бо ўважаў, што ў вольнай, незалежнай Беларусі якраз спэцыялісты ад эканомікі будуць патрэбныя. У 1957 годзе закончыў студыі і прыступіў да працы над дакторскай тэзай. У Мадрыдзе ён быў у рэдкалегіі квартальніка ORIENTE EUROPEO, публікацыі Цэнтру Усходніх Студыяў.

Дакторскую працу перарваў, бо ў 1958 годзе здабыў у Гішпанскім Нацыянальным Радыі магчымасьць на штодзённыя беларускія радыёперадачы.

Яшчэ ў 1952 годзе на 25 Сакавіка Янку ўдалося зрабіць праз Гішнагцкае Нацыянальнае Радыё першую, накіраваную на Беларусь, беларускую радыёперадачу. А з 1958 ён вядзе, аж да спыненьняў у 1965 годзе, штодзённыя беларускія радыёперадачы у Гішпаніі.

Між 1966-м і 1969-м годам Янка быў рэдактарам гішпанскіх праграмаў Гішпанскага Нацыянальнага Радыё.

У 1969-м годзе пераяжджае з сям'ёй у Атаву, сталіцу Канады. Тут адразу Янка ўключаецца ў беларускае жыцьцё. Ён шматгадовы старшыня Атаўскага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Канады, сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, з 1948 году Сябра Рады БНР. Ён сябра Управы Канадыйскай Рады для паняволеных эўрапэйскіх народаў у Атаве.

Да часу выхаду, у 1991 годзе, на пэнсію працаваў эканамістам для Канадыйскага Фэдэральнага Ураду й, на працягу апошніх сямі год, рэдагаваў і выдаваў на ангельскай і французскай мовах эканамічна-статыстычны бюлетэнь прысьвечаны рынку працы.

Эканаміст па прафэсіі, а мастак-фатограф з замілаваньня. Ужо ў 16 год сам змайстраваў свой першы фатаграфічны апарат і да канца жыцьця займаўся фатаграфіяй. У выніку стварыў цэлую фатахроніку беларускага жыцьця ў Канадзе. Здымкі ягоныя публікаваліся ў шматлікіх выданьнях беларускае дыяспары, прыкладам шмат іх у кнізе Раісы Жук-Грышкевіч «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча», а ягоны мастацкі партрэт Натальлі Арсеньневай трапіў у Менскае выданьне кнігі паэзіі паэткі. Мастацкімі здымкамі ён увекавечыў асьвячэньне ў 1988 годзе Беларускага памятнага Крыжа ў прошчы ў Мідлянд, у Канадзе.

З жонкай Івонкай выгадавалі дзьве дачкі, Паўлінку й Ганю, якімі Янка моцна ганарыўся. Унукі Шарлёта й Алесік прынесьлі яму шмат радасьці ў апошнія гады жыцьця.

Памёр Янка 3-га чэрвеня. Да канца жыцьця цікавіўся і перажываў падзеі ў Беларусі. Пахавалі яго ў прысутнасьці шматлікіх прыяцеляў ў Old Chelsea каля канадзкай сталіцы Атавы, 7-га чэрвеня 1997 году. А 28 чэрвеня ў часе 9-га паломніцтва да Беларускага памятнага Крыжа й помніка пакутнікам Беларусі, у прошчы ў Мідлянд, Канада, успаміналі Яго і маліліся за вечны супакой Ягонай душы.

Вечная памяць Табе, «Працаўнік і Змагар!»

**Івонка Сурвілла**

---

## ГАДАВЫ ЗЬЕЗД *Пачатак на б. 3*

Пасьля дыскусыяў над справаздачамі Зьезд прызнаў абсалюторыюм уступаючай управе.

Новая Управа ЗБВБ была выбраная натупна: Старшыня сп-ня Л. Міхалюк; заступнік старшыні — М. Дзейка; сакратар і скарбнік — др. І. Турло; сябры — а. А. Надсон, Я. Ясіловіч і сп-ня Сенько; Наглядная Рада — сп. Мартынчык, сп. Казкоўскі і сп. Сенько.

Зьезд закончыўся адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Пасьля Зьезду было прыняцьце прыгатаванае сяброўкамі Згуртаваньня. **С. Будкевіч**

---

Сям'я, Рада БНР, БАЗА і Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва з сумам паведамляюць, што на 95-ым годзе жыцьця памерла 25-га ліпеня 1997 г. у г. Рочэстар (ЗША) выдатная паэтка й грамадзка-палітычны дзеяч

## НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

---

Светлай памяці

## ЛЯВОН ЛУЦКЕВІЧ

нар. 13 сакавіка 1929 г. у Вільні, памёр 28 ліпеня 1997 г. таксама ў Вільні. Пахаваны на могілках Росы.
Спачуваньні жонцы выказваюць газэта БЕЛАРУС, БАЗА і БІНіМ.

---

## ДА БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА

Марыя Міцкевіч падрыхтоўвае да выданьня кніжку пра малодшага брата Я. Коласа — Дзядзьку Міхася Міцкевіча, які пасьля вайны пражываў у Нью-Ёрку. Кнігу плянуецца выдаць у канцы гэтага году. Цяжка разьлічваць на падтрымку ад дзяржаўных установаў, асабліва у выпадку кнігі пра Міхася Міцкевіча.

Надзея застаецца на дапамогу з замежжа. Дзеля гэтага мы будзем прасіць суродзічаў дыяспары, а перадусім тых, хто ведаў Дзядзьку Міхася, памагчы колькі хто можа. Выдадзеную кніжку дашлем кожнаму ахвярадаўцу.

Дапамогу на выданьне перасылаць на адрас:

A. Mickievic, 90-16 54 Ave. Elmhurst, N.Y. 11373

Марыя Міцкевіч
Супрацоўніца Скарынінскага Цэнтру,
Старшыня Дзіцячага Фонду «Сакавік»

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**Прыслана непасрэдна ў рэдакцыю**

| | |
|---|---|
| Др. У. Набагез | 100 |
| Н. Сьнежка | 50 |
| І. Ільчук | 60 |
| М. Грэбень | 30 |
| С. Буткевіч | 20 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| В. Канарчук у памяць мужа | 100 |
| Л. Гутырчык у памяць У. Хараўца і М. Стагановіч | 100 |
| Л. Гутырчык | 50 |
| А. і Н. Нінейны | 100 |
| С. Мурог | 20 |
| Н. і А. Жызьнеўскія у памяць Н. Арсеньневай | 50 |

Сп-ва Ільчук (замест вянка на магілу М. Махнача) ам. дал. 100

У № 438 «Беларуса» за верасень-кастрычніік 1996 г. дзеля карэктарскага недагляду прозьвішча спадарства Ільчукоў было памылкова пададзенае як Юшчык.

Рэдакцыя просіць выбачэньня.

**Ахвяраваньні на Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва**

| | |
|---|---|
| В. і З. Кіпель | ам.дал. 1000 |
| Л. Колін | 100 |
| Др. В. і В. Рамук | 100 |
| В. і М. Пашкевіч | 50 |
| Б. Паўк | 50 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| Др. В. Міленцэвіч | 56.25 |
| а. М. Бурнос | 56.25 |

| | |
|---|---|
| К. Брэнан | 20 |
| К. Канюта | 20 |
| А. Субота | 50 |

**У памяць Н. Арсеньневай на выдавецкі фонд БІНІМу ахвяравалі:**

| | |
|---|---|
| Др. У. Набагез | 200 |
| Н. і А. Жызьнеўскія | 50 |

**На дзейнасьць Галоўнае Управы БАЗА**

| | |
|---|---|
| М. Латушкін | 100 |

**Фінансавая справаздача за чэрвень і ліпень 1997**

*Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| О. Грыцук (Заміж кветак на магілу Я. Сурвллы) | ам. дал. 50 |
| А. Хрэноўскі | 50 |
| Г. Харавец (У памяць аб У. Харавец) | 40 |
| Б. Данілюк | 30 |
| В. Мельяновіч | 30 |
| М. Смаршчок (Замест кветак на магілу А. Чарнэцкай) | 500 |
| У. Адашкевіч | 30 |
| Н. Сьнежка | 50 |
| М. Бахар | 30 |
| П. Кулеш | 50 |
| А. Кузьміч | 30 |